Цана — Price 25 ¢

BIELARUS
401 ATLANTIC AVENUE
BROOKLYN 17
NEW YORK, N. Y.

# БЕЛАРУС
BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER

ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША.

ГОД XIII. № 74 ЛЮТЫ, 1962 NEW YORK, N. Y., U.S.A. FEBRUARY, 1962 VOL. XIII. № 74

## КАНГРЭСМАН СТРЭТАН НА АКАДЭМІІ 25 САКАВІКА

Як паведамляе Гал. Управа БАЗА, на сёлетняй Сакавіковай Акадэміі, прысьвечанай 44-м угодкам абвешчаньня Беларусі Незалежнай Народнай Рэспублікай (БНР), якая адбудзецца ў нядзелю 25 сакавіка сёлета ў Biltmore Hotel, галоўным прамоўцам будзе Кангрэсман Самюэль С. Стрэтан з 32-га дыстрыкту Нью-Ёрк.

Кангрэсман Стрэтан — вялікі прыяцель паняволеных народаў, асабліва Беларусаў. Ён аўтар ведамага закону аб стварэньні адмысловай Кангрэсавай Камісіі для Паняволеных Народаў. Паходзіць ён із сьвятарскае пратэстанскае сям'і зь Ёнкерс, Нью-Ёрк. Вучыўся ў Скэнэктэды й Гарвардзе, быў выкладчыкам у каледжах й камэнтатарам палітычных навінаў у радыё й тэлебачаньні. У часе вайны служыў на Далёкім Усходзе афіцэрам пад камандаю ген. Мэк Артура й быў двойчы ўзнагароджаны „Бронзавай Зоркай". Кангрэсман Стрэтан — сябра шматлікіх амэрыканскіх вайсковых дый камбатанскіх арганізацыяў. У Кангрэсе ЗША — ад 4-га лістапада 1958 г.



Кангрэсман Самюэль С. Стрэтан
32 Дыстрыкт, Нью-Ёрк

## ВЯЛІЗНАЯ УДАЧА КАСМАНАУТА ГЛЭНА

А гадз. 9.47 раніцы 20-га лютага, 1962 г. у ЗША здарылася нязвычайная падзея, амэрыканскі касманаўт палкоўнік Джон Глэн быў запушчаны з базы Кэйп Кэнэвэрал у Флёрыдзе вялізарнай ракетаю „Атлас" у арбіту вакол зямлі.

Ягоны нявялікі касьмічны карабель „Фрэндшып" тры разы абкружыў зямлю на вышыні 160 міляў, із хуткасьцяў 17.545 міляў у гадзіну і, пасьля блізу 5 гадзінаў (4 гадз. 56 мін. 27 сэк.) у касьмічнай прасторы, апусьціўся на парашуце ў Атлянтыцкі акіян у згары вылічаным амэрыканскімі навукоўцамі месцы ў раёне Багамскіх абтокаў, дзе гэлікоптар вылавіў яго й даставіў на борт мінаносцу „Ной". 5 гадзінаў у касьмічнай прасторы ня мелі ўплыву на здароўе палкоўніка Глэна, чуецца ён дасканала.

За падрабязнасьцямі гэтага нязвычайнага экспэрымэнту сачыў па радыё й тэлебачаньню ўвесь сьвет.

## СПРАВА КАМІТЭТУ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Кангрэсмэн Дэрвінскі падняў 16 студзеня нанава ў амэрыканскім кангрэсе пытаньне стварэньня Камітэту Паняволеных Народаў. Да пастановы ў гэтай справе летась, як ведама, не дайшло, дзеля супраціву дзяржаўнага сакратар'яту замежных справаў. Сакратар Раск сваім лістом, у якім прадставіў Маскоўскую імпэрыю як „дзяржаву, што склалася гістарычна", пытаньне гэтае істотна заблытаў і затармазіў. Хоць, зь іншага боку, у поўнай супярэчнасьці з гэткім становішчам, амбасадар Стывэнсан у Задзіночаных Нацыях затакаваў маскоўскі каляніялізм ня толькі вонках СССР, але й у яго нутры.

Кангрэсмэн Дэрвінскі ўважае, што стварэньне Камітэту Паняволеных Народаў было-б у дадзеным мамэнце вельмі карысным для змаганьня з аблыжнаю прапагандаю Масквы пра імпэрыялізм Захаду. Камітэт гэты мог-бы стацца дынамічным інструмантам для паважнага ўзмацненьня слабое й хісткое амэрыканскае замежнае палітыкі.

## ЗАМАХ НА ХРУШЧОВА У БЕЛАРУСІ?

Рымская камуністычная L'Unita 6 лютага паведаміла, што ў Маскве, сярод журналістаў - чужынцаў, упорыста шырыцца чутка аб тым, быццам у канцы студзеня ў Беларусі быў выкананы замах на Хрушчова, зь якога ён аднак-жа выйшаў цэлы. Газэта падала, што ў Хрушчова стралялі з рэвольвару ці ў Менску, ці на землях Заходняе Беларусі, паблізу мяжы з Польшчаю, куды Хрушчоў ехаў на сустрэчу з Гамулкам.

Савецкія ўлады факт замаху станоўка запярэчылі. Заходняя прэса падчырквае аднак-жа характэрную драбніцу, а паменна тое, што вестка з'явілася не ў якой іншай, а якраз у камуністычнай газэце, звычайна добра паінфармаванай у закулісных справах СССР.

## ТАРАШКЕВІЧ НЯ ЖЫВЕ

### ВЫДАТНЫ ЛІДАР ГРАМАДЫ ЗЬНІШЧАНЫ У 30-х ГАДОХ

Да гэтай пары ня было пэўных вестак пра долю Браніслава Тарашкевіча, лідара Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Ведама было толькі, што ён быў арыштаваны як „вораг народу" й „беларускі буржуазны нацыяналісты", і пасьля гэтага слых аб ім загінуў. Перад вайною даходзілі ў Заходнюю Беларусь чуткі аб ягоным зьнішчэньні, але ніякога пацьверджаньня гэтага факту ня было. Цяперака менская „Літаратура і мастацтва" з 26 студзеня ў „рэгабілітацыйным" артыкуле, піша пра Тарашкевіча, што „памёр ён у канцы трыццатых гадоў. З гэтага вынікае, што Тарашкевіч быў зьнішчаны неўзабаве пасьля арышту, у самы „разгар" крывавае расправы Масквы зь беларускім нацыянальным актывам.

Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. у Чарнулішках, Міцкунскае воласьці, Віленскага павету. Пачаткавую школу кончыў у Лаварышках, сяродню ў Вільні, дзе навязаў лучнасьць з „Нашай нівай". На пецярбурскім унівэрсытэце ў гадох 1911-1916 Тарашкевіч студыяваў філялёгію. У 1918 г. ён апрацаваў і выдаў першую нарматыўную граматыку беларускае мовы,якая пасьлей шмат разоў перавыдавалася. У пазьнейшых гадох пераклаў на беларускую мову Гомэраву „Іліяду" ды Міцкевічавага „Пана Тадэуша".

Тарашкевіч заўсёды вызначаўся вялікаю актыўнасьцяй у беларускім палітычна-нацыянальным жыцьці. Быў ён адным з заснавальнікаў Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску ў 1917 г., сябрам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ды старшынём Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны. Як старшыня Беларускае Школьнае Рады, Тарашкевіч сарганізаваў у межах т. зв. „Сярэдняе Літвы" каля 200 беларускіх школаў. У 1922 г. ён быў дырэктарам Віленскае Беларускае Гімназіі й адначасна сакратаром Беларускага Навуковага Таварыства.



Б. Тарашкевіч.

У 1923 г. Тарашкевіча выбіраюць паслом у польскі сойм. Там ён становіцца на чале Беларускага Пасольскага Клюбу. У 1924 г. пры ягоным удзеле закладаецца нацыянальна - радыкальная партыя, ведамая Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, якая за пару год вырастае ў стотысячную арганізацыю. На пачатку 1927 г., у часе разгрому польскімі ўладамі Грамады, Тарашкевіч, як лідэр быў арыштаваны, і пасьлей засуджаны на 12 год зьняволеньня. У 1931 г. польскія ўлады звальняюць яго перадтэрмінова з астрогу, ды ўжо ў 1932 г. ўзноў арыштоўваюць ды нанава засуджваюць.

У 1933 г. польскія ўлады перадаюць Тарашкевіча Маскве. Заставацца ў Беларусі папулярнаму правадыру найбольшае ў гісторыі беларускае палітычнае партыі Масква не дазволіла. Спачатку прыдзяляюць Тарашкевіча на малаважную пасаду ў Маскоўскім аграрным інстытуце, каб неўзабаве арыштаваць ды, як цяпер ведама ўжо напэўна, зьнішчыць.

Па сваей адукацыі ды здольнасьцях Тарашкевіч меў першаякасныя дадзеныя стацца выдатным навукоўцам - беларусаведам і прынесьці шмат карысьці беларускай навуцы. Вынесены, адылі, шпаркім нацыянальным адраджэньнем на ўзьверх палітычнага руху Заходняе Беларусі, Тарашкевіч стаўся палітыкам. Як лідар Грамады ён ня вывіў вымаганае ад добрага партыйнага правадыра самастойнасьці ў палітычнай ініцыятыве й хадох, ня меў і канечнае палітыку прадбачлівасьці. Гэта, узноў-жа, выплывала зь нястачы належнае ацэны палітычных абставінаў і магчымасьцяў пары, ды недахопу яснага асэнсаваньня галоўных гістарычных мэтаў і заданьняў беларускага нацыянальна - -палітычнага руху Заходняе Беларусі.

Пад загрозаю шавіністычнае Варшавы з аднаго боку, а ціскам і зводнымі прапановамі вялікадзяржаўнае камуністычнае Масквы зь іншага, Тарашкевіч, хай паводле пераконаньняў камуністам ня быў, наважыў шукаць падтрыманьня й апоры для беларускага палітычна-нацыянальнага руху Заходняе Беларусі ў Маскве.Дапамогу гэтую Масква дала, але толькі на тое, каб разам перабраць і палітычныя „лейцы", ды якнайхутчэй, у судзейнасьці з польскаю адміністрацыяй справа кавацць ды зьнішчыць Грамаду, як беларускую арганізацыю паважных палітычных уплываў і моцы і гэтак ачысьціць месца дзеля працы й уплываў свае падпольнае камуністычнае арганізацыі. Сам-жа Тарашкевіч за свой наіўны давер да Масквы трагічна заплаціў пры канцы галавою. Загінуў ён у сіле веку, бо маючы адно каля 45 год.

## ВЕРНЫЯ СЛУЖКІ МАНЫ

Савецкая газэціна „беларускае сэкцыі камітэта за вяртаньне" — „Голас радзімы" — адважылася ў канцы прыгадаць нешта й пра сталінскі „культ асобы". У артыкуле „Мы не баімося праўды" ведамыя партыйныя грабары гэтае праўды пішуць вось што:

„Ліквідацыя культу асобы . . . выклікала ўзмацненьне антысавецкай прапаганды . . . Нажаль . . . і некаторыя сумленныя людзі за рубяжом, у тым ліку й нашыя землякі... робяць памылковыя вывады, што адчуваецца ў . . . пісьмах у рэдакцыю . . ."

„Калі жыў Сталін... груба парушалася рэвалюцыйная законнасьць. . . трагічнымі ахвярамі гэтага сталі сотні й навет тысячы сумленных людзей, бязьмежна адданых рэвалюцыі й справе Леніна... Камуністычная партыя сказала балючую праўду... Сталін злоўжываў сваёй уладай. Гэта нічога ня мае супольнага . . . з савецкаю ўладаю . . ."

„Не сказаць аб гэтым праўды, азначала-б пагаджацца з усімі тымі злоўжываньнямі, якія былі дапушчаны пры кульце асобы Сталіна . . . Культ асобы прынёс многа шкоды . . . Камуністычная партыя . . . заўсёды сьледвала запаветам Леніна . . Лепш горкая праўда, чым салодкая мана. Мы не баімося праўды, бо яна за нас . . ."

Гэтулькі „Голас". Насу-

(Канец на 2 бал.)

**BIELARUS**
Byelorussian newspaper published by
BYELORUSSIAN - AMERICAN ASSOCIATION, INC.
National Headquarters
401 Atlantic Avenue
Brooklyn 17, New York, USA. — Tel.: MAin 5 - 9352.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта ў Амэрыцы
Рэдагуе Калегія. Падпіска зь перасылкаю 4.00 дал. на год.

# ВАЖКАЯ СПРАВА

Гадамі ўжо ў бюракратычных прыстолках Вашынгтону ляжыць без рэалізацыі справа першараднае палітычнае вагі для народу й Беларускага, і Амэрыканскага: справа перадачаў „Голасу Амэрыкі" пабеларуску. Фактам ёсьць, што трэйці паводле вялічыні паняволены народ Маскоўскае імпэрыі, народ-заснавальнік і сябра Задзіночаных Нацыяў, застаецца й дагэтуль паза полем безпасярэдняга засягу афіцыйнае амэрыканскае інфармацыі. Амэрыка гаворыць сяньня праз радыё да шматлікіх, часта дзесяць раз меншых народаў, але не да народу Беларускага.

Як-жа зусім адрозна да гэтае самае справы падыйходзяць агульна прызнаныя майстры прапаганды — бальшавікі. Ведамая рэч, як камуністычная Масква дбае пра тое, каб праз дзесяток радыёвых станцыяў самое БССР шырыць дзень і ноч хвальш, ману й атруту ненавісьці да Амэрыкі й Амэрыканскага народу сярод шматмілённых масаў народу Беларускага. І больш таго: хоць у вольным сьвеце ня міліёны, а ўсяго тысячы беларускае эміграцыі й амэрыканцаў беларускага паходжаньня, Масква не шкадуе ані захадаў, ані коштаў, каб тую-ж атруту свае прапаганды сеяць і сярод іх адмысловымі беларускімі радыёвымі перадачамі, сваімі газэцінамі ды друкамі-агіткамі.

У ваблічы гэтага, проста ўражае, што ўрад багатае Амэрыкі й дагэтуль ня можна ўцяміць ня толькі ўжо вагі, але й самое патрэбы беларускіх радыёвых перадачаў „Голасу Амэрыкі" не да тысячаў ужо, а да міліёнаў Беларускага народу. Вашынгтон нейк і па сяньня ня можа зразумець наколькі псыхалягічна й палітычна важна гаварыць беспасярэдне ад народу Амэрыканскага да народу Беларускага, несьці роднаю моваю да душы й сэрца Беларусаў сваё слова праўды, волі й дэмакрацыі. На справе перадачаў „Голасу Амэрыкі" пабеларуску маем адзін зь яскравых прыкладаў таго трагічнага для Амэрыкі шкадаваньня й перацэньваньня даляраў, а недацэньваньня ня толькі ўжо чалавека, але й цэлых народаў, у выніку чаго Масква дасягае ў халоднай вайне значныя палітычныя перамогі коштам вялікіх адначасных паразаў Амэрыкі.

Даўгімі гадамі й амэрыканскія Беларусы, і Беларусы вольнага сьвету наагул, зьвяртаюць увагу Вашынгтону на гэтае ненармальнае й палітычна вельмі шкоднае палажэньне. Сёлета гэтую важную для інтэрэсаў Амэрыкі, Беларусі й дэмакратычнага сьвету справу нанава й энэргічна падняла амэрыканская беларуская моладзь сваёю акцыяй пісьменных дамаганьняў пачаць нарэшце перадачы „Голасу Амэрыкі" пабеларуску, кіраваных на адрысы сваіх мясцовых кангрэсмэнаў ды сэнатараў. Важна, каб сялетні пачын моладзі падтрымалі масава ўсе Беларусы Амэрыкі, і гэтак, супольным натугам, дамагліся спыненьня тае вялікае маральнае й палітычнае шкоды, якая дзеіцца Амэрыцы, Беларусі, а адначасна й справе дэмакрацыі й свабоды.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

*44-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ*

**БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

*адбудуцца*

СЁЛЕТА Ў НЯДЗЕЛЮ 25-га САКАВІКА

*У праграме сьвяткаваньня:*

*А гадз. 10-й раніцы: Сьв. Літургія з Малебнам за Беларусь, адпраўленая Яго Высокапрэасьвяшчэнствам Архіяпіскапам Васілём у Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык эвэню ў Брукліне).*

*А гадз. 3-й папаўдні: Урачыстая Акадэмія, прысьвечаная Дню 25-га Сакавіка,ладжаная ў*
BILTMORE HOTEL, MUSIC ROOM,
Madison Avenue at 43-d Street, New York.

*Усе ветліва запрашаюцца.*

# ВЕРНЫЯ СЛУЖКІ МАНЫ

перак крыку „мы не баімося", у сказаным, як і ў усей цяперашняй савецкай зьбянтэжанай мітусьні каля асобы Сталіна, прабіваецца ня што іншае, як партыйны страх глянуць сваёй-жа жудаснай партыйнай праўдзе ў вочы.

Найперш, што значаць словы „культ асобы"? Гэта ня што іншае, як прапагандны стыдлівы фігавы лісток, якім партыйная агітацыя намагаецца упрыгожыць і хоць часткова прыхаваць усю тую гідкую маральную брыдоту, якая ў звычайнай людзкой мове называецца жудаснаю, крываваю й зьверскаю дыктатурай, дыктатурай, што бязьлітасна гняла, крышыла, губіла міліёны нявінных людзей усіх народаў Маскоўскае імпэрыі, а найбольш самога шчырага „пралетарыяту", сялянаў і работнікаў. Дыктатура нялюдзкое прыгоннае працы й безглядное эксплюатацыі чалавека, дыктатура, якая давяла працоўныя масы да нячуванае матар'яльнае галіты й маральнага панікжэньня ды зьдзеку.

Вось гэтую голую гістарычную праўду, што крываваю плямаю вякамі будзе ліпець на Маскве й ейнай партыі, — сяньня партыйная прапаганда, а зь яе даручэньня й пісакі „Голасу", і намагаюцца перад народам стыдліва прыкрыць, прыхаваць пад адмыслова прыдуманаю для гэтага нявіннаю этыкеткаю: к-у-л-ь-т а-с-о-б-ы!

„Голас", як пра ахвяры „культу", успамінае „сотні і нават тысячы сумленных людзей, бязьмежна адданых рэвалюцыі й справе Леніна", — гэта значыць шкадуе толькі сваіх партыйных бальшавікоў. Пра міліёны-ж выгубленых крываваю сталінскаю партыйнаю дыктатураю зусім нявіннага непартыйнага народу—няма й спаміну. Доляю іх „Голас" ня цікавіцца, яны яго, як і ўсю новую савецкую партыйную буржуазію, абыйходзяць найменш.

Зусім такое-ж крывадушнае літаваньне над сьмерцяй партыйных, а ніякое ўвагі да зьнішчанага народу, было й у прамовах на партыйных кангрэсах ведамага сучаснага аб'екту савецкага „культу асобы" — Нікіты Хрушчова. З гэтага факту яскрава вызірае ўся брутальная, згрунту антынародная істота бальшавіцкае партыі й цэлае, Сталіным-жа створанае, савецкае сыстэмы, у якой партыя — усё, а народ — нішто. Пісакі „Голасу", як вывадкі гэтае антынароднае сыстэмы й верныя яе служкі, у сваёй пісаніне гэта й зраджаюць. Вось таму гэтак проста й лёгка для іх і напісаць яўную ману, што ўсё зьверства над народам, якое праводзіілся ад імя партыі, партыяй, ды на „славу камунізму", „нічога ня мае супольнага . . . з савецкаю ўладаю" — уладаю, якую, кажны гэта ведае, і мае толькі гэтая партыя.

Толькі маральна сьляпых могуць пераканаць і такія выкруты, што вінаваты Сталін, а не партыя, якая быццам „заўсёды сьледвала толькі запаветам Леніна". А хто-ж, як не камуністычная партыя ўзгадавала Сталіна ды ўзьвяла на вяршыні дыктатарскае ўлады, дала ў распараджаньне яму ўсю брутальную сілу для масавага тэрору над народам? Хто, як ня партыя ня толькі апраўдвала ды выконвала кажны народагубны задум Сталіна, але й узносіла гадамі яго за гэта ў паднябесьсе? Хай пісакі „Голасу" зазірнуць у савецкія газэты Сталінскае пары, там яны знойдуць тысячы партыйных дэклярацыяў, рэзалюцыяў, пастановаў, якімі партыя славіла Сталіна за ягоныя зьверствы. І пастановы гэтыя падпісаныя ня йменамі толькі „апазыцыі" — Молатава ці Маленкова, але й Хрушчова, Мікаяна ды тысячы меншых бальшавіцкіх верхаводаў.

А таксама, калі „Голас" запраўды за „праўду" й запраўды яе „не баіцца", дык дзе-ж ягоныя пісакі былі дагэтуль, хоць-бы апошнія 8 год, калі іхны сьмяротны страх — Сталін — скончыўся? Чаму трэба было чакаць аж гэтулькі часу, каб асьмеліцца сказаць і гэты драбок праўды, да якое яны сяньня, прыкрываючы фігавымі лісткамі „культу асобы" ды маны, прызнаюцца? І чаму дагэтуль аб праўдзе гэтай ня толькі маўчалі, але й заўсёды станоўка яе запярэчвалі, як злосную „буржуазную" выдумку? Ці-ж гэта не найлепшы прыклад таго, што праўда й партыйная прапаганда ніколі ня могуць „суісnаваць"?

І яшчэ адно: калі ўжо цяпер партыя прызнаецца да таго, што „грубыя парушэньні законнасьці" былі, ды што „тысячы сумленных людзей" сталіся нявіннымі ахвярамі гэтых парушэньняў, дык чаму не зрабіць і далейшы лягічны з гэтага высноў, чаму не паставіць перад народным судом усіх галоўных удзельнікаў-выканаўцаў сталінскага крывавага тэрору й масавага народагубства? Ясна, што суд такі быў-бы судам толькі над камуністымі, бо-ж гэткае „адказное" заданьне, як нішчэньні нявіннага народу партыя й давярала толькі сваім-жа партыйным. Сьвет вось і чакае на гэткую справядлівасьць, бо чаго вартая „дэсталінізацыя", пры якой усе галоўныя сталінскія каты застаюцца й на далей уладарамі над народам?

Калі ў часе апошняга партыйнага кангрэсу ў Маскве Хрушчоў пачаў узноў ліць свае воўчыя сьлёзы над долю зьнiстожаных камуністых, дасуважа былыя такія-ж як і ён, сталінскія „сатрапы" вывалачы, адразу-ж высунулі праект пабудовы памятніка на замардаваных Сталіным бальшавікох. Нас, і напэўна ўвесь беларускі народ, гэтыя, зьнішчаныя ў працэсе нутрапартыйнае грызьні за ўладу каты народу, абыйходзяць найменш. Але на чалавецтве цяжыць маральны абавязак на памяць вяком ды на перасьцярогу будучым пакаленьням, узьнесьці ў належным месцы годны памятнік тым міліёнам нявіннага народу, што былі выгубленыя масавым крывавым тэрорам партыі й яе правадыроў — Сталіна, Хрушчова, Маленкова, ды іхных верных выслужлівых паплечнікаў.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ У СССР НА ФОНЕ 22-га ЗЬЕЗДУ ПАРТЫІ

Вось тэма, якой, зь ініцыятывы Украінскай Акадэміі Навукаў і Мастацтва, была прысьвечаная міжнацыянальная канфэрэнцыя ў Нью Ёрку 30-га сьнежаня 1961 г. Удзельнікі канфэрэнцыі — навукоўцы, грамадзкія дзеячы й палітыкі, сябры Украінскае Акадэміі Навукаў, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды балцкіх грамадзкіх і палітычных арганізацыяў — праанілізавалі апошнюю праграму КПСС, асабліва мясьціны, што прадугледжаныя праграмай у дачыненьні да нацыянальнага пытаньні ў СССР.

**Антон Адамовіч** у рэфэраце „Русыфікацыя, як праява нацыянальнай палітыкі на Беларусі", аналізуючы сяньняшнюю русыфікатарскую палітыку Масквы ў БССР, адзначыў, што русыфікацыя нацыянальных рэспублікаў ідзе аднолькавымі шляхамі, але з рознымі вынікамі. Базуючы свае студыі на выніках апошняга перапісу жыхарства СССР і шматлікіх працах заходніх дасьледнікаў, дакладчык давёў, што ў СССР найбольш зрусыфікаваныя на сяньня тыя народы, што ня маюць свае асобнае адміністрацыйна - абмежанае прасторы, за імі йдуць народы славянскія, каўказкія, мусульмане й г. д. Аднак, падкрэсьліў дакладчык, у сваёй русыфікатарскай палітыцы Масква заўсёды накіроўвае першы ўдар на Беларусь. Гэтак, Расейцы ўжо вельмі рана ў гісторыі пачалі змаганьне зь Літвой-Беларусяй, задоўга перад іншымі нацыянальнасьцямі, была забароненая расейскім урадам беларуская мова, пісьменнасьць.

Сп. Адамовіч падрабней затрымаўся на спосабах русыфікацыі, а гэта русыфікацыі праз школы, армію, літаратуру, адміністрацыю, прывазны чужы элемэнт. Дакладчык падмацаваў свае высновы лічбамі.

Канфэрэнцыя скончылася дыскусыяй над рэфэратамі.

## БЕЛАРУСІКА У АМЭРЫЦЫ

### КАЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСКІХ КНІЖАК У НЬЮ-ЁРКУ

ГАРАДЗКАЯ БІБЛІЯТЭКА НЬЮ ЁРКУ. Калекцыя беларусікі гэтае бібліятэкі адна з найбольшых у вольным сьвеце. Беларуская калекцыя знаходзіцца ў Славянскім аддзеле, які налічвае каля 200 тыс. тамоў, зь іх каля 10 - 12% кніжак тычыцца Беларусі, а звыш 2500 кніжак у беларускай мове. Беларуская калекцыя існуе ад 1911 году. Беларускі дасьледнік знойдзе тут матар'ялы зь гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, эканомікі, мовы й інш. гуманістычных ды тэхнічных навукаў. Праўда, ня ўсе галіны прадстаўленыя ў аднолькавай паўніні — гэтак мова, прыродаведа ці эканоміка прадстаўленыя слабей за гісторыю ці этнаграфію. Досыць поўная калекцыя публікацыяў беларускіх навуковых таварыстваў, акадэміяў, згуртаваньняў.

Ёсьць шмат рэдкіх беларускіх выданьняў, прыкладам, беларускія кніжкі, друкаваныя ў Лёндане ў канцы мінулага стагодзьдзя, першадрукі Багушэвіча й шэраг іншых. Асабліва добра прадстаўлены ў аддзеле пэрыяд беларускага друку 1919-32 гадоў. Ёсьць тут „Летапіс беларускага друку", камплеты „Нашага Краю", „Сац. Будаўніцтва", „Асьветы", „Узвышша", вельмі шмат выданьняў розных камісарыятаў ды бэлетрыстыкі й паэзыі. Значнае месца ў калекцыі займаюць пэрыёдыкі й газэты. Бібліятэка мае гэткія газэты, як „Беларуская жыцьцё", „Зьвязда" за 20-ыя гады, мікрафільмы „Гоману", „Нашае Долі" ды шмат іншых.

Аддзел уважна сочыць за сяньняшнім беларускім друкам: выпісваецца шмат журналаў і кніжак з БССР, Беластоку, камплетуюцца беларускія эміграцыйныя выданьні. Памагчымасьці аддзел паволі павялічвае калекцыю беларускімі кніжкамі, што сталіся сяньня рэдкасьцяй: гэтак нядаўна былі набытыя слоўнікі У. Ластоўскага, Я. Станкевіча, „Белорусское движение" Турука ды шмат іншых.

Славянскі аддзел, у супрацоўніцтве з Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, стала ладзіць выстаўкі, прысьвечаныя той ці іншай галіне беларусаведы. Гэтак, у 1957 годзе была арганізаваная выстаўка „Вехі беларускае літаратуры", у 1960 г. выстаўка „Беларускі друк лацінкай" (дарэчы, у аддзеле ёсьць цікавыя, рэдкія кнігі, друкаваныя беларускай лацінкай) і ў 1961 г. выстаўка, прысьвечаная Я. Карскаму.

### АБВЕСТКА

**Выйшла з друку кніга а. др. М. Маскаліка „Янка Купала — пясьняр беларускага народу". Кніга мае 244 бачыны друку, цана ейная — 5 даляраў.**

**Замаўляць кнігу можна ў:**
"Weissruthenishe Caritas"
Goslar (Harz),
Danziger Str. 58, Germany.

## АНТОН ЛЯВІЦКІ — ЯДВІГІН Ш.

### ДА САРАКАВЫХ УГОДКАЎ СЬМЕРЦІ



Ядвігін Ш.

Свае літаратурныя творы Антон Лявіцкі, выдатны пісьменьнік - празаік новае беларускае літаратуры, пісаў пад мянушкаю Ядвігін Ш. Нарадзіўся ён у 1866 г. у хвальварку Карпілаўка каля Радашкавіч. Знаёмства зь беларускаю літаратураю вялося ў яго з самога маленства, бо пачаткаў граматы Ядвігіна Ш. вучыла ў нелягальный школцы ў Люцыне дачка ведамага „беларускага дудара" В. Дуніна-Марцінкевіча. Стуль ён знаў добра й старога ўжо тады „Навума Пагаворку", і ягоныя беларускія творы.

Сярэднюю асьвету Ядвігін Ш. здабываў у Менску, унівэрсытэцкую — ў Маскве. У Маскве-ж, калі быў інтэрнаваны ў Бутырскай турме за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях, Ядвігін Ш. стаўся адным зь ініцыятараў і заснавальнікаў беларускага студэнцкага нелягальнага гуртка, які выдаваў пасьлей беларускія кнікі.

Пісаць Ядвігін Ш. пачаў яшчэ ў студэнцкія гады. Першы твор — драма „Злодзей" — у 1893 г. ставілася аматорскім драматычным гуртком у Радашкавічах. Сыстэматычную літаратурную творчасьць пісьменьнік разгарнуў аднак-жа толькі пасьля скасаваньня забароны беларускага друку ды паявы беларускіх пэрыядычных выданьняў. Ужо ў трэцім нумары „Нашае Долі" зьмешчанае ягонае апавяданьне, а ў „Нашай ніве" Ядвігін Ш. друкуецца стала, ды нейкі час быў нават і ейным літаратурным кіраўніком. Пасьлей Ядвігін Ш. пераяжджае ў Менск ды выдае тамака сельска - гаспадарчы месячнік „Саха".

Майстэрства Ядвігіна Ш., як пісьменьніка, праявілася найперш у мастацкіх апавяданьнях, гумарыстычна-сатырычных абразкох, у алегарычных байках. Творы гэтыя раськіданыя па пэрыядычных выданьнях. Толькі частка іх сабраная ў зборніках „Бярозка" (1912) і „Васількі" (1914). Даў Ядвігін Ш. і вершаванае апрацаваньне лягенды „Дзед Завала" (1909) ды аповесьць „Золата". Зь літаратурнай й біяграфічна - гістарычнага гледзішча вельмі цікавыя „Ўспаміны" (1922) з студэнцкае пары жыцьця, а таксама „Лісты з дарогі", пісаныя ў часе падарожжа зь Вільні ў Менск пехатою, друкаваныя ў 1910 г. у „Нашай ніве".

Ядвігін Ш. першы выдатнага таленту й шырокага мастацкага значэньня празаік новае беларускае літаратуры. Знаў ён дасканальна быт, мову, думкі й сьветагляд народу, і ягоная літаратурная творчасьць — іхнае каштоўнае мастацкае адбіцьцё. І сваімі сюжэтамі, і бытавым калярытам, і ёмкаю, сакавітаю народнаю моваю, апавяданьні й байкі ягоныя выводзяцца з самых нетраў народнага быту й сьветагляду ды з тонкага знаньня людзкое псыхікі. Асаблівым майстраю Ядвігін Ш. быў у пісаньні алегарычных казак, дзеючы пэрсанаж якіх — птушкі ды зьвяры. Яны прадстаўленыя ў гэго ня горш, чымся ў адпаведных майстроў-клясыкаў сусьветнае літаратуры.

Памёр Ядвігін Ш. 24 лютага 1922 г. у Вільні й пахаваны тамака-ж на могільніку Росы.

Ядвігін Ш., разам з А. Гаруном, В. Ластоўскім і іншымі, належыць да ліку тых пісьменьнікаў-нашаніўцаў, імёны якіх менскія партыйныя палітрукі намагаюцца цяпер вычаркнуць зь гісторыі беларускай літаратуры. Творы Ядвігіна Ш. сёньня ў БССР належаць да забароненых як „нацыялістычныя", раней друкаваныя ягоныя кнігі выкінутыя зь бібліятэкаў публічнага карыстаньня, імя ягонае прамоўчваецца ува ўсіх хрэстаматыях і падручніках беларускае літаратуры.

**ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС"**

*ЯДВІГІН Ш.*

## ВЯСЕЛЬЛЕ

Тут друкуецца алегарычнае апавяданьне Ядвігіна Ш., узятае зь беларускага каляндара „Нашае нівы" на 1912 год. Друкуецца яно ня толькі з нагоды ўгодкаў сьмерці Ядвігіна Ш., але й таму, што пісьменьнік проста прароча прадбачыў і геніяльна адмаляваў у ім тых каршуноў-людаловаў цяперашняга маскоўскага вываду, што вось гадамі ўжо й праз радыё, і праз „галасы радзімы"назольна клічуць беларусаў вольнага сьвету ў СССР, на сваю бальшавіцкую „скавараду".

Давялося ўдаве каршуніс (мужа нядаўна Паўлюк забіў сукам на сьметнікў: надта ўжо з курыцай завёўся!) дачку замуж аддаваць. А паміж каршуноў гэтак ужо вядзецца, каб гонару сям'і сваей не зьняважыць, толькі паміж сабой і бяруцца. Вось і каршуніха, як прыстала на ганорную матку, нагледзіўшы лоўкага, маладога каршунка, стала рыхтавацца да вясельля.

Дачка й кажа:

— Замуж, мамка, пайду, —сьпірацца няма чаго: такая ўжо доля наша дзявочая, але вясельле спраў, як мае быць.

Добра: вясельле — дык вясельле. Хай пацешыцца дачушка паміж сваіх елак! Дый сама каршуніха не ад таго; дарма, што мужавы косьцячкі яшчэ не пагнілі.

Каго-ж прасіць на вясельле? Старая каршуніха й стала вылічаць:

— Перш-на-перш, — кажа яна, — салавейку: ён калі завядзе, ажно за сэрца хапае, — так яно й трэба на вясельлі! Пару галубкоў: для прыкладу, як маюць жыць маладыя. Сароку — канешне трэба: на ўсю ваколіцу разьнясе, якое важнае было вясельле. Удота...

— Мамка, — перапыніла маладая, — я памятаю, як ты яшчэ малую мяне накарміла раз удотамі, — надта-ж сьмярдзючыя яны . . .

— Маўчы, дурная! — крыкнула на дачку каршуніха: маладая ты — ня ведаеш яшчэ, як на сьвеце жыць! Сьмярдзючы ўдот,— то праўда; але калі прыбярэцца, дык іншаму здаецца, што й трэба яму сьмярдзець: ад важнасьці, значыцца. Прасіць і цецярука: у яго такая гутарка, што ніхто не не разьбярэ; вось і будуць думаць, што надта нешта разумнае! У музыкі клікнем дзятла з жаўной: хай у барабаны таўкуць. Дразда: падсьвістваць, бач, майстра. Бухайлу: хоць аддае балотам, але да дуды складзен. На цымбалах добра рэжа бусел, але зь ім нам ня варта займацца: праз лад ужо насаты. З нас і так будзе; хай малады з сваей стараны прымчыць.

Слухаючы гэтых праектаў, маладая з радасьці ажно з сука на сук стала скакаць.

Толькі, як прыйшлося выбраць пасланца па госьці, аніяк не маглі прыдумаць, каго-б тут назначыць? Урэшце згадзіліся на сініцу: надта ўжо дасужая — ці трэба, ці ня трэба, усюды дападзе, усюды загляне, дый набрахаць хоць што можа!

І праўда: зраньня наказалі, ды йшчэ паўдня ня мінула, а яна ўжо назад з дакладам прыпёрла:

— Так і так, — кажа, — усюды была, усіх абляцела, з усімі гаварыла, усе іх гутаркі падслухала, усе іх думкі выведала. Надта ўжо ўсьцешыліся, і шлюць падзяку за такі вялікі гонар і неспадзяваную ласку вашай міласьці, толькі баяцца . . .

— Чаго? — насупіўшыся, пытае каршуніха. — Казала ім, як я табе прыказвала?

— А якжа, казала, ваша міласьць, — усё казала! для пакоры падняўшы хвост у верх, адказвае сініца. — Казала, што ваша міласьць і ўсе вашай міласьці сваякі зь вялікай сваей ласкі да вас, дробязі, у дзень вясельля панадзяюць мяккія рукавіцы на свае кіпцюры, дык, калі й выйдзе якая звадка (ведама, на вясельлі), ніякай крыўды быць ня можа. Але ведама: дурныя! Чаго яны ня выдумаюць?! Хочуць . . .

— Чаго хочуць? — перапыніла карчуніха.

— І казаць не адважуся . . . — ізноў падняўшы хвосьцік, адказвае сініца.

— Ну, — налягала старая.

— Хочуць, каб ваша міласьць і ўсе, каторыя будуць на вясельлі з роду вашай міласьці, на той час панадзявалі мяшэчкі на свае шаноўныя глюгі, ды й то баяцца . . .

— І так баяцца? Якая-ж яшчэ трасца ім патрэбна?— злосна спытала каршуніха.

— Я-ж і кажу: дурныя! Хоць на ўсялякія шальмоўствы, нябось, розуму хапае. Кажны зь іх не такі,то сякі, а ткі мае на сваёй душы грашок. Я вашай міласьці ўсю праўду выкажу. Вось, хоць бы цецярук? Ці-ж гэта выпадае на ўвесь бор — гэткі бор, гэтак балабаніць?! Ведама: бор — борам, каго толькі там ня бывае, а ён балабане, балабане, дый яшчэ падшыкне! — Або сарока? вядомая брахуха! Брэша, абы брахаць, а іншаму можа здавацца й вунь што... Салавейка, дрозд нават панавучваліся такія рэчы сьвістаць, што не асьмелюся й сказаць вашай міласьці . . . Дый усе яны бабры-дабры, а хоць пашпарты й маюць, усё-ж ткі баяцца, што, як з дому скранецца, пакуль дападуць пад апеку вашай міласьці, каб часам у дарозе . . .

— Годзе! — крыкнула каршуніха. — Можаш адпраўляцца.

— — — — — — —

А ткі каршуніха справіла вясельле сваёй дачцы, як мае быць! І дасьцё веры: былі там цецярук, дрозд і ўсе другія, толькі не ў гасьцях, а . . . на скаварадзе!

# З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ

*НЮ-ЁРК*

**ГАДАВЫ БАЛЬ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ**

У сыботу 13-га студзеня сёлета, у прыгожай, вялікай залі Ленокс Гол у Мангэтане, Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў ЗША, ладзіла свой традыцыйны гадавы баль — сустрэчу Новага Году паводле старога стылю.

Баль быў арганізаваны добра. Да танцаў грала ведамая ў Нью-Ёрку аркестра Ул. Осэрэдчука, быў свой бар і буфэт із беларускімі стравамі. Але галоўнаю атракцыяй балю былі выбары „Князёўны" балю на 1962 год. Адмысловаю камісіяй, пакліканаю з прадстаўнікоў старэйшага беларускага грамадзтва былі выбраныя 12 найбольш годных тытулу „князёўны" дзяўчатаў, пераважна сяброўкаў ЗБМА, зь якіх прысутныя на балі госьці выбралі тайным галасаваньнем „князёўну" балю й ейных дзьвюх „дружкаў". Бальшынёю галасоў „князёўнаю" балю ЗБМА на 1962 год была выбраная сяброўка Яра Тумаш, студэнтка Гантар Каледжу ў Нью-Ёрку, якой „князёўна" ЗБМА зь мінулага году, Оля Мэльяновіч, і перадала „князёўскую" карону. „Дружкамі" былі выбраныя сп-чня Паўлава, гэтаксама студэнтка, і Ніна Каваль, вельмі дзейная сяброўка ЗБМА.

**ДЗІЦЯЧАЯ ЯЛІНКА БАЗА**

У нядзелю 14-га студзеня 1962 г. ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры, супольнымі намаганьнямі Жаночае Сэкцыі Акругі БАЗА Нью-Ёрк ды кіраўніцтва беларускае школы БАЗА, была арганізаваная ялінка для беларускіх дзяцей. Кіраўнічкаю імпрэзы была сп-ня А. Курыла. Ялінка была вельмі ўдалая, бадай ці не адна зь лепшых за мінулыя колькі год.

Мастацкая праграма пачалася беларускаю народнаю „Батлейкаю", выканаваю пад кіраўніцтвам сп-ні М. Станкевіч дзецьмі й моладзяй, што чыталі тэкст і сьпявалі. Былі тут і цар Ірад, і Сьмерць з касою і цыганы й Антон з Антоніхаю ды казою. Уцехі было шмат. Пасьля „Батлейкі" выступалі з дэклямацыяй вершаў ды грою на фартап'яне й іскрыпцы дзеці. Усе дэманстравалі сваё ўмельства вельмі адважна й у добрай беларускай мове.

У праграме ўзялі ўдзел: Ларыска Курыла, Аля Вартуль, Ніна й Верачка Запруднік, Рыта Кажан, Юрка Андрусышын ды Алеся Кіпель — з дэклямацыяй, а Галінка Тумаш, Юрка й Ліда Рагулі ды Юрка Курыла — зь ігрою на фартап'яне й іскрыпцы (Юрка Курыла).

Увагу прысутных зьвярнула на сябе дасканалая невялікая рэч камп. М. Куліковіча „Валачобнікі", вельмі добра выкананая на фартап'яна Лідаю Рагуля, а таксама „Беларуская фантазыя" камп. Э. Зубковіч, выкананая ёйным малым братам Юркам.

**ЯК ЖЫЦЬ, КАБ БЫЦЬ ЗДАРОВЫМ ДЫ МАЛАДЫМ**

Рэфэрат на гэтую тэму быў прачытаны кагадзе др. Ул. Набагезам беларускаму грамадзтву Нью-Ёрку й меў вялікую ў яго ўдачу, дзякуючы сваёй папулярнай і жывой форме. Арганізаваны ён быў Акругаю БАЗА Нью-Ёрк і адбыўся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры 28-га студзеня сёлета. Пасьля мэдычнага рэфэрату адбылася „жывая газэта" й кава, зладжаныя культурным рэфэрэнтам Нью-Ёрскае Акругі БАЗА сп. В. Станкевічам.

Рэфэрат др. Набагеза, які працуе ў адным зь Нью-Ёрскіх шпіталёў, быў як-бы ўступам да арганізаванае тэю-ж Акругаю БАЗА акцыі сталае лекарскае дапамогі й лекарскае апекі над сябрамі БАЗА. З гэтаю мэтаю БАЗА папрасіла др. Набагеза правесьці мэдычны агляд ейных сяброў, які будзе паўтарацца пэрыядычна, ды ўзяць іх наагул пад сваю сталую лекарскую апеку.

**МЭДЫЧНЫ АГЛЯД СЯБРОЎ БАЗА**

праводзіцца др. Набагезам (із дапамогаю сп-няў Н. Рагуля й М. Казьлякоўскай) што чацьвер увечары, між 7 - 10 гадз. Першы гэткі агляд адбыўся 1-га лютага сёлета. Былі праверяныя каля 12 сяброў БАЗА, на кажнага зь якіх была закладзеная адмысловая сталая картатэка.

**ПАСЕДЖАНЬНІ УПРАВАЎ БАЗА**

19-га студзеня сёлета адбылося паседжаньне Акруговае Управы БАЗА, Нью-Ёрк, на якім абмяркоўваліся справы арганізацыйнага парадку.

**

21-га студзеня адбылося супольнае паседжаньне Галоўнае й Акруговае Управаў БАЗА. Былі абмяркованыя й прынятыя пастановы ў справах: сьвяткаваньня 44-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка, арганізацыі Цэнтру Аховы Здароўя БАЗА, газэты „Беларус", чароднае Сустрэчы Беларусоў Паўночнае Амэрыкі ды інш.

## ЗАКЛІК

**Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША заклікае ўсіх сяброў БАЗА рэгулярна плаціць сяброўскія складкі й складкі ў Беларускі Нацыянальны Фонд, установленыя 9-ым Кангрэсам БАЗА.**

**Галоўная Управа просіць гэтаксама старшыняў аддзелаў БАЗА зьвярнуць на аплату складкаў сваю асабліву ўвагу, каб матар'яльна забясьпечыць належнае выкананьне ускладзеных на БАЗА абавязкаў рэпрэзэнтаваць ды абараняць інтарэсы сваіх сяброў, ды наагул беларускую справу ў ЗША.**

**Галоўная Управа БАЗА.**

*КЛІЎЛЭНД*

**КАЛЯДЫ У КЛІЎЛЭНДЗЕ**

На праваслаўныя Каляды, арганізаваныя тутэйшым аддзелам БАЗА „калядоўшчыкі", пад кіраўніцтвам У. Літвінкі, вельмі спрычыніліся да ўзьняцьця сьвяточнага настрою ў кажнай беларускай хаце. Гэтага году хадзілі „з Калядою" пераважна маладзейшыя, школьнікі, і гэта вельмі разумна, бо, прывучаючы паступова малодшых да грамадзкае працы пад кіраўніцтвам старэйшых, можна спадзявацца мець у будучыні новых годных працаўнікоў на беларускай ніве, якія, год па годзе набяруць сілаў, усьведамяцца нацыянальна ды навучацца беларускага народнага мастацтва.

**

14-га студзеня Кліўлэндзкі аддзел БАЗА ладзіў, із дапамогаю жанчынаў ды моладзі, ялінку для беларускіх дзяцей. Культурна-асьветны рэфэрэнт БАЗА — Іра Каляда падрыхтавала зь дзецьмі прыгожую калядную казку М. Міцкевіча „Цудоўная ноч". У ліку госьцей быў на ялінцы й др. Гітллінг, які бярэ ціпер удзел у перакладзе Біблii на беларускую мову. Малыя артысты — Галінка Кананчук, В. Стрэчань, К. Каваленка, М. Каваленка, Р. Грынкевіч, З. Каваленка, Т. Патапенка, В. Страпко, К. Яраховіч, Д. Дунец,Р. Дунец, В. Каваленка, В. Дунец — выканалі свае ролі вельмі ўдала, за што належыцца падзяка кіраўнічцы Іры Каляда, а перадусім бацьком, якія не паленаваліся акуратна прывозіць сваіх дзяцей на пробы. Усе былі ўзнагароджаныя гарачымі воплескамі. Нарэшце, і малыя артысты й гледачы дачакаліся найбольш радаснае часіны — прыходу Дзеда Мароза. Яны яшчэ ня чулі, каб Дзед Мароз гутарыў пабеларуску ды так прыгожа навучаў іх.

Удалая імпрэза скончылася разданьнем дзецям падарункаў.

*САЎТ-РЫВЭР*

**ПРЫЕЗД СТАРШЫНІ БЦР**

Як даведваемся, кагадзе прыбыў у ЗША старшыня БЦР праф. Р. Астроўскі, які маніцца прабыць тутка да восені гэтага году.

**ВЕЧАРЫНА МОЛАДЗІ**

3-га лютага сёлета, Саюз Беларускае Моладзі ладзіў у залі Шака ў Саўт-Рывэр вечарыну. Забава ўдалася. Да танцу грала беларуская аркестра Я. Жыдовіча.

*НЮ-БРАНСЬВІК*

**БЕЛАРУСКІЯ ХРЭЗЬБІНЫ**

20-га студзеня 1962 г. ў Нью-Брансьвіку адбыліся шматлюдныя й вясёлыя хрэзьбіны кагадзе народжанае дачушкі спадарства С. Гутырчыкаў — Вэрнадэты - Рагнеды. Абрад сьв. Хрэсту выканаў, прыбылы на адмысловую просьбу бацькоў аж з Чыкага, айцец Язэп Гэрмановіч. Пасьля гэтага адбыўся багаты, на звыш 100 асобаў, хрэзьбінны банкет з прамовамі й танцамі. Грала беларуская аркестра „Вярозка" пад кіраўніцтвам Ул. Бычкоўскага.

*ВІЧЫТА, КЭНЗАС*

**НОВАЯ МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ**

У месьце Вічыта ў штаце Кэнзас пачала дзейнічаць новая міжнацыянальная арганізацыя „Саюз Амэрыканцаў Чужаземнага Паходжаньня" (Alliance of Americans of Foreign Origin), у якую ўвайходзяць прадстаўнікі ад 18-ёх нацыянальных групаў, што жывуць у ЗША, у тым ліку й Беларусоў, у асобе сп. К. Мерляка, які ёсьць сябрам рады дырэктароў „Саюзу".

У выданым кагадзе бюлетэню, новая амэрыканская арганізацыя зьвяртае асаблівую ўвагу грамадзтва на рэзалюцыю №211 аб стварэньні адмысловага камітэту для справаў паняволеных народаў пры Кангрэсе ЗША. У бюлетэню моцна крытыкуецца пастава дзяржаўнага сакратара Раска ў дачыненьні да паняволеных Масквою народаў, выяўленая ў ягоным лісьце да Кангрэсу ад 28 жніўня 1961 г., дзе сакратар Раск зазначае, што Армэнія, Грузія, Украіна й іншыя краіны СССР ёсьць „традыцыйнымі часткамі Савецкае Расеі". У бюлетэню падаюцца гэтаксама выняткі з мэмарандуму ў справе расейскага каляніялізму, высланага сябром Задзіночаных Нацыяў сп. К. Мерляком ад імя Нью-Ёрскае камісіі Парыскага Блёку. Зьмешчаны ў бюлетэню й тэкст мэмарандуму складзенага 28 лістапада на рукі амбасадара Стывэнсана, гэтаксама ў справе каляніяльнае палітыкі Савецкае Расеі.

Чародная канвэнцыя Саюзу Амэрыканцаў Чужаземнага Паходжаньня плянуецца на 14 ліпеня 1962 г. Адбудзецца яна ў Чыкага.

*ТАРОНТА, КАНАДА*

**ТРЫНАЦЦАТЫ ЗЬЕЗД ЗБК**

27-га й 28-га студзеня сёлета ў Таронта адбыўся 13-ы зьезд Згуртаваньня Беларусоў у Канадзе. На зьезде была выбраная новая галоўная управа Згуртаваньня із новым старшынём, сп. В. Касьцюкевічам, на чале. Зьезд прыняў пастанову аб зьмене назвы арганізацыі, якая будзе цяпер называцца Беларуска-Канадыйскім Згуртаваньнем, паанагельску — Byelorussian-Canadian Alliance.

*ЛЁНДАН, Ангельшчына*

**КАМУНІКАТ ЗБВБ**

Кагадзе выйшаў Камунікат №4(61) галоўнае управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. У камунікаце, між іншым, падаецца, што Згуртаваньне ладзіла ў мінулым годзе, супольна з Хрысьціянскім Аб'еднаньнем Беларускіх Работнікаў, арганізацыяй іншага палітычнага кірунку, ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ды традыцыйную беларускую Куцьцю, што трэба, хіба, прывітаць.

**ПАДЗЯКА**

**Управа Беларуска-Амэрыканскае Дапамогі ў ЗША выказвае шчырую падзяку амэрыканскім Беларусам за ахвяры на Калядную Ялінку для патрабуючых суродзічаў у Эўропе.**

**Ахвяры прыслалі: Нью Ёрк — 134 дал.; Чыкага — 50 дал.; Нью Брансьвік — 35 дал.; Лос-Анджэлёс — 22 дал.**

**Управа БАД.**



БЮРО ЗАДЗІНОЧАНЫХ НАЦЫЯЎ

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**ВЫСОКАГА КАМІСАРА ДЛЯ УЦЕКАЧОЎ**

Паводле дамоўленасьці з Урадам Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі, грашовую кампэнсацыю могуць дастаць уцекачы, што пацярпелі ад нацыянал-сацыялістычнага перасьледу з прычыны свае **НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ** (Перасьледаваных за іхнюю расу, веравызнаньне ці палітычныя пагляды — дамоўленасьць гэтая не абымае). На гэтую мэту Нямецкі Фэдэральны Урад пераказаў у распараджаньне Высокага Камісара 45.000.000 НМ.

**Тэрмін складаньня заяваў у справе кампэнсацыі ПРАДОЎЖАНЫ да 31 САКАВІКА 1962 году. Гэта апошні тэрмін. Усе зацікаўленыя хай пачынаюць стараньні безадвалочна.**

Уцекачы, што жывуць у ЗША, па дакладнейшыя інфармацыі ды адпаведныя фармуляры, павінны зварачацца да:

*U.N.H.C.R., Room 3268, United Nations, N.Y.*

Паводле падобнае-ж дамоўленасьці дамагацца кампэнсацыі могуць, ужо беспасярэдня ад Ураду Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі, і ўсе тыя ўцекачы, якія ў выніку нацыянал-сацыялістычнага перасьледу за сваю нацыянальнасьць дазналі калецтва ці пашкоджаньня здароўя. Заявы ў гэтай справе трэба кіраваць на адрыс:

*Bundesverwaltungsamt, Hochhaus, Cologne, Germany.*

**Заявы аб кампэнсацыю за калецтва прыймаюцца да канца 1962 году.**

**Заўвага Рэдакцыі:** Беларусы, што маюць аснову дамагацца кампэнсацыі на падставе вышэй пададзенага паведамленьня па параду й тэхнічную дапамогу ў справе складаньня заяваў могуць зьвярнуцца да:

*Whiteruthenian-American Relief, Inc.*
*401 Atlantic Avenue, Brooklyn 17, N.Y.*